*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 38(146) ◈ 22 верасня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ выставу-прэзентацыю Менскага станкабудаўнічага аб'яднання Кастрычніцкай рэвалюцыі, прымеркаваную да яго 85-годдзя. Адбылася сустрэча з рабочымі. На пытанне з залы, як ён ставіцца да падпісанага ў Расіі пагаднення аб банкаўскім і эканамічным саюзе, Станіслаў Станіслававіч адказаў: «Мае адносіны да яго станоўчыя». Што ж, паглядзім, што станоўчага прынясе гэтае падпісанне незалежнасці Рэспубліцы Беларусь.*

•

СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ НАВЕДАЎ ГОМЕЛЬШЧЫНУ. У час адной гутаркі з жыхарамі вобласці ён сказаў: «Я, як чалавек, які не змог у Віскулях да канца спрагназаваць далейшую палітычную сітуацыю і на сумленні якога ляжыць груз адказнасці перад сваім народам, раблю ўсё, каб не адрадзіць Савецкі Саюз (на мой погляд, гэта практычна немагчыма), а стварыць яго ў абноўленым выглядзе». Вячаслаў Кебіч прызнаў поўную нежыццяздольнасць цяперашняй Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Так што нас, магчыма, зноў чакае Савецкі Саюз, але ўжо створаны Вячаславам Кебічам.

•

*НА ВЫКАЗВАННЕ ВЯЧАСЛАВА КЕБІЧА, у якім ён прызнаў поўную нежыццяздольнасць СНД, Станіслаў Шушкевіч сказаў: «Я не менш, чым вы (журналісты), здзіўлены гэтымі словамі. Я лічыў і лічу, і не абцяжарваю сваё сумленне тым, што я зрабіў нешта не тое, што трэба, у Віскулях. Я лічу, што мы ў Віскулях выканалі добрую работу і прынялі добрае пагадненне. Пацвярджэннем таму было рашэнне Вярхоўнага Савета ратыфікаваць яго, пры адным голасе «супраць». І калі Вячаслаў Францавіч лічыць гэта сваёй памылкай, то, відавочна, трэба было б уступіць месца тым, хто гэта памылкай не лічыць і можа працаваць на падставе ратыфікаваных Вярхоўным Саветам матэрыялаў».*

•

Працягваецца падпіска на перыёдыку Рэспублікі Беларусь на першы квартал 1994 года. У рэдакцыю паступаюць тэлефонныя паведамленні, што ў некаторых аддзяленнях сувязі выстаўлены спіскі-рэкамендацыі на што падпісацца. Што ж рэкамендуецца? «Советская Беларусь», «Мы и время», «Вечерний Минск» і ў такім духу далей. Што гэта: загад зверху ці ініцыятыва саміх сувязістаў?

*Рэха*

## Васіль БЫКАЎ:
## «Толькі знешні вораг ці ўнутраны здраднік можа выступаць супраць права народа на самастойнасць існавання»

У адказ на спробы праімперскіх камуністычных сіл, рупарам якіх стала маскоўская газета «Праўда», з артыкулам пад назвай «Каб захаваць уладу, яны здольныя аб'яднацца хоць з самім д'яблам» у «Народнай газеце» (1.09.93) выступіў Васіль Быкаў. Адзначыўшы, што ў Беларусі кіруюць усё тыя ж людзі, якіх узгадавала КПСС, народны пісьменнік звяртае ўвагу на тое, чаму яны ўсё настойлівей «пачалі адмаўляць у суверэннасці краіне, у якой звыкла ўладараць». Бо спалохаліся, што хутка іх уладаранне скончыцца. Спадзяванка адна — на падтрымку рэакцыйных імперскіх сіл у Расіі, а таму і наладжванне канфедэрацыі, новага «саюза».

Ворагі суверэннасці,— адзначыў Васіль Быкаў,— не перастаюць крычаць аб разрыве эканамічных сувязей як галоўнай прычыне эканамічнага развалу. Але хто рве сувязі? Хіба ў дакументах Віскулёў напісана нешта падобнае? Хто і дзе прагалошваў аб неабходнасці разрыву эканамічнага саюза з Расіяй ці з якой-небудзь іншай дзяржавай былога Саюза? Пра тое, што аўтаркія — не наша палітыка, дэкляравалі, бадай, усе дэмакратычныя партыі Беларусі, якія, не перастаючы, патрабуюць усталявання разумных эканамічных сувязей з Расіяй і з усім светам, дзе гэта толькі магчыма. Але чаму не наладжваюцца, а рвуцца тыя сувязі — няблага запытацца ў вярхоўнай улады рэспублікі, дзе сышліся ўсе правады кіравання. Ці няма тут таемнага, недзе тонка распрацаванага сабатажу супраць яшчэ слабага суверэнітэту рэспублікі? Дужа ўжо ён не даспадобы пэўным сілам у Беларусі, якія мараць вярнуцца туды, дзе ім было так зручна і сытна,— у звыклую сістэму планава-каманднай эканомікі з яе непераможным флагманам ВПК, які нарэшце і разваліў тую савецкую эканоміку. Эканоміка, у якой 80 працэнтаў нацыянальнага прыбытку пачала адбіраць вайсковая вытворчасць, доўга існаваць не магла. Тое зразумелі не толькі ЦРУ, але і КДБ, а за імі і малады «гаспадар СССР» Міхаіл Гарбачоў, які пачаў перабудову, каб выжыць, ураваць дзяржаву і КПСС. Ды было ўжо позна — не памагла і перабудова.

*Заканчэнне на с. 2.*

*У друку з'явійся Праект (па стану на 20.08.1993 г.) Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Артыкул 17: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова (за—прагаласавала 204 дэпутаты). Афіцыйны статус іншых моў вызначаецца законам (за — 116)».*

*5 верасня ў віленскім парку Вігніс беларусы Літвы разам з тысячамі пілігрымаў з усіх куткоў Беларусі змаглі пачуць зварот Яна Паўла на беларускай мове. Нашым святарам ёсць з каго браць прыклад.*

## Гучаць над Краіўнаю беларускія песні



Лера Сом — спявачка і паэтка з Полацка.

*Рэпартаж чытайце на с. 3.*

Рэха

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

Набыўшыся ў вялікай «дружнай сям'і» народаў пад кіраўніцтвам «мудрай партыі», што пасварыла СССР з усім светам, падвяла яго да глабальнай ядзернай катастрофы, народы памкнуліся кожны на свой хутар, бо зразумелі, што ўратавацца можна толькі паасобку. Каб не быць заложнікамі чужой вар'яцкай палітыкі, ачмурэлай ідэалогіі, непад'ёмнай, дашчэнту змілітарызаванай эканомікі, а кіравацца адным — уласным меркаваннем здаровага сэнсу, сваёй нацыянальнай ментальнасцю. Уратаваць кожную нацыю здолеюць толькі яе ўласныя намаганні, уласная нацыянальная палітыка, эканоміка па ўласных сродках-магніцтва, і папрасіць для іх абароны ўвесці ўзброеныя сілы Расіі.

Але навошта ўводзіць? — з горкай іроніяй заўважае Васіль Быкаў.— Гэта ў свой час «спатрэбілася» ўводзіць Савецкую Армію ў Прыбалтыку, Малдову, Венгрыю і Чэхаславакію, у Афганістан нарэшце. Беларусь жа ў гэтым сэнсе дае вялікія перавагі ды эканомію рэсурсаў і сродкаў, загадзя трымаючы тут сотні тысяч чужога войска, якое даўно і беспакарана гаспадарыць ад Брэста да плошчы Незалежнасці ў сталіцы. У Беларусі таксама актыўна дзейнічае нядаўна рэанімаваная партыя камуністаў, людзі якой засядаюць, не таячыся, ва ўсіх без выключэння органах шчэнных даброт супольнага чалавечага існавання, і толькі ва ўмовах скажонай, перакуленай свядомасці з'яўляецца патрэба тое даказаць. Толькі знешні вораг ці ўнутраны здраднік можа ў наш час выступаць супраць права народа на самавызначэнне, на самастойнасць яго існавання. У Расіі адносіны да суверэнізацыі таксама розныя. У той час як імперскія сілы гатовы сёння ж вярнуць усіх з ненавіснага ім «парада суверэнізацыі», лепшыя расійцы, сапраўдныя дэмакраты ўсяляк падтрымліваюць памкненні народаў да волі, да выхаду з-пад шматгадовага камуністычнага прыгнёту. Вось да іх бы і паехаць дэпутатам, наладзіць саюз і палітыч-

# Васіль БЫКАЎ: «Толькі знешні вораг ці ўнутраны здраднік можа выступаць супраць права народа на самастойнасць існавання»

чымасцях. Цяжка? Так, іначай і не магло быць: пераход ад аднаго сацыяльна-палітычнага ладу да зусім іншага, мабыць, бесканфліктна не адбываецца. Хаця, канешне, шмат што зроблена няўмела, многае не зроблена зусім, іншае зрабіць не далі абставіны ці чужыя варожыя сілы. Але суверэнітэт дае надзею — калі не нам, дык хоць нашым дзецям. Суверэнітэту, як і дзяржаўнасці, дамагаліся дзесяткі пакаленняў лепшых людзей нашай няшчаснай нацыі, усе іх высілкі звычайна тапіліся ў крыві. А тут ён упаў, гэты суверэнітэт, нібы райскі саспелы яблык, толькі падніміце яго, карыстайцеся, добрыя людзі. Ды і наогул суверэнітэт кожнай краіны — разуменне адназначна дадатнае, замацаванае ў міжнародных актах ААН, іншых прававых дакументах. Нават камуністы не адважыліся трактаваць яго іначай і выдаткоўвалі мільёны і мільярды для яго дасягнення ў былых каланіяльных краінах, у так званай нацыянальна-вызваленчай барацьбе заняволеных народаў. Дык чаму ж цяпер адэптам камунізму (той жа «Праўдзе») так не даспадобы суверэнітэт паўтара дзесятка народаў былога Саюза? Чаму з такой кіслай мінай яна перакрыўляе гэтае слова на абразліва-здзеклівае «самостийность», якое на ўсіх мовах павінна гучаць толькі годна і спаважна? Ніколі не горш, чым любімае імперцамі «единое нормальное государство». Бо што такое «единое», а што «нормальное» — гэта трэба яшчэ зразумець. Але мы ўжо семдзесят гадоў мацалі адно «нормальное», і ў нас крывавыя мазалі на руках ад тых мацанак.

Камуністычна-імперскія сілы,— заўважае Васіль Быкаў,— рознымі сродкамі спрабуюць дэстабілізаваць абстаноўку ў Беларусі. Выкарысталі «польскую карту», «летувіскую» таксама. Здаецца ўжо бяздарна адпрацаваны і «карта Палісся», Славянскі сабор, дык, мабыць, надышоў час выкінуць апошні козыр — залементаваць, што на Беларусі прыціскаюць рускае насельзаканадаўчай, выканаўчай, судовай улады. Эканоміка гэтай краіны даўно і надзейна з'яднана з расійскім ВПК і прылучана да агульнага нафтава-энергетычнага трубаправода, закрутка ад якога знаходзіцца ў Маскве. Беларускія грошы, знарок зняважліва названыя «зайчыкамі», у два разы таннейшыя за расійскія рублі, і калі іх цяжка памяняць на расійскія, дык нядоўга патрабаваць ад дырэктара Нацыянальнага банка арганізаваць гэты абмен і ўстанавіць новы, льготны для таго курс. А можа, стварэнне такіх і падобных «канфліктных зон» у нейчых уладных інтарэсах? Таксама як і сабатаж вытворчых ды іншых сувязей з краінамі бліжняга і далёкага замежжа, як развал забеспячэння Беларусі энерганосьбітамі (крызіс якіх даўно ўжо пераадолены, напрыклад, у нашых суседзяў — Польшчы і Летуве). Як і сабатаж заканадаўчай абароны дзяржавы і грамадзян ад карупцыі і арганізаванай злачыннасці: задоўжаная адсутнасць разумнага заканадаўчага стымулявання замежных інвестыцый у нашу эканоміку, паліятыўны закон аб землекарыстанні. Ці ўсё тое Вярхоўны Савет ды ўрад не могуць вырашыць у рамках суверэннай дзяржавы, патрэбны звыклыя ўказанні з Масквы, куды і накіравалася спецыяльная дэлегацыя? Маўляў, прыміце ў вашу дзяржаву, адны мы гаспадарыць не можам.

Ці не стане такая ініцыятыва стымулам для сапраўднай вайны ўсіх з усімі, бо далёка не ўсе так думаюць, як праўдзінскія аўтары, і зусім не прагнуць вярнуцца назад, у стойла, у казарму? Калі нават у казарме не трэба думаць, як «накормить народ». Ці не прынясуць некаторыя з ускраінных «гарачых кропак» разам з азначаным стымулам і гарачыя вугалькі пажару? Да зубоў узброеныя расійскай ды іншай зброяй, ці не запатрабуюць яны столькі хлеба і нафты для сваіх рэгіянальных войнаў, колькі новыя гаспадары не здолеюць ім даць? Што тады будзе?

Суверэннасць нацыі і дзяржавы — адна з самых свяныя сувязі. Дык не, ім мілей рэакцыйны Вярхоўны Савет.

Нацыянальная незалежнасць, дзяржаўная суверэннасць нацый і народаў сталі адметнай вяхой гісторыі напрыканцы XX стагоддзя. Іншая справа, як распарадзіцца той суверэннасцю, як на яе аснове наладзіць эканоміку, урэгуляваць прававое жыццё. Вядома, у нас яны ладзяцца з рук вон кепска. І тут галоўная прычына ў кіраўніцтве, ва ўладзе. Стала відавочна, што са зменай сацыяльных адносін патрэбна і змена ўлады. Старая камуністычная ўлада не здольная пабудаваць новыя, рыначныя адносіны: па-першае, не ўмее, па-другое, не хоча — гэта ўжо зразумела кожнаму. Былыя спецыялісты-гаспадарнікі, выхаванцы партыйных акадэмій, ВПШ, розных заідэалагізаваных ВНУ, спрактыкаваныя арганізатары сацыялістычнага спаборніцтва, якое яны дзесяцігоддзямі шырылі і шырылі, аказаліся бездапаможнымі ў новых эканамічных абставінах. Але яны ўчэпіста трымаюцца за старое, лепей пусціць на распыл усю эканоміку, чым «пярэйдуць у новую веру». Як тыя генералы ВПК, што праявілі незвычайную ў сваёй упартасці цвёрдасць — за восем гадоў размоў аб канверсіі, здаецца, так і не выпусцілі ніводнай каструлі. Толькі танкі і ракеты, ракеты і танкі, ад якіх цяпер немаведама як пазбавіцца. Гэтак жа і «чырвоныя феадалы», сельскагаспадарчыя «князькі» ўсіх гатункаў: яны ўжо не ўступяць калгаснай зямлі, бо для іх калгаснае — даўно стала сваім. А па-другое, яны эмпірычна спасцiглі неабвержную для кожнага ладу ісціну: у каго зямля, у таго і ўлада.

А ўжо з уладай яны не расстануцца, нават каб для яе ўтрымання спатрэбілася заключыць «калектыўнае пагадненне» або аб'яднацца хоць з самім д'яблам,— заключае народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

# Прызнанні

*— Містэр Вулхайзер, як Вы зацікавіліся нашай мовай?*

— На першым курсе я вывучаў гісторыю ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Асабліва зацікавілі выданні Скарыны — сваім высокім мастацкім узроўнем і своеасаблівай моваю. Потым ужо, праслухаўшы курс лекцыяў па параўнальнай граматыцы ўсходнеславянскіх моў, я зацікавіўся сучаснай беларускай моваю, яе гаворкамі. Яшчэ мяне вельмі зацікавіла праблема ўзаемасувязі беларускай мовы з суседнімі — расійскай і польскай. Трэба сказаць, што для мяне, амерыканскага славіста, адкрыццё беларушчыны было накшталт адкрыцця новага кантынента, бо наогул у амерыканскіх славістычных колах веды аб беларускай мове, культуры і гісторыі даволі абмежаваныя.

*— І гэтае адкрыццё вызначыла Вашу навуковую дзейнасць?*

— Так, я вырашыў напісаць дысертацыю на беларускую тэму. Я зразумеў, што трэба неяк сістэматычна вывучаць беларускую літаратурную мову. Але ніхто з прафесараў у нас, ва універсітэце штата Індыяна, не займаецца беларусістыкай, таму трэба было ўсё рабіць самастойна. Цяжка было спачатку, бо ў нас у лінгафонным кабінеце не было аніякіх запісаў, паводле якіх можна было б правільна навучыцца беларускай фанетыцы, не было з кім размаўляць.

*— Вы цудоўна, без акцэнту, гаворыце па-беларуску. Як жа Вам удалося?*

— Аднойчы адна асістэнтка нашай кафедры, даведаўшыся, што я цікаўлюся беларускай мовай, сказала, што ёсць у нашым горадзе адзін эмігрант з Беларусі, пенсіянер, які раней выкладаў расійскую мову на нашай кафедры (куды ж не трапіць беларусы!). Дык вось, пачаў я хадзіць на ўрокі да яго. Майму настаўніку было вельмі прыемна, што нехта цікавіцца ягонай моваю, на якой ён толькі зрэдку меў магчымасць гаварыць. Бо іншых беларусаў у нашым універсітэцкім горадзе няма. Аднак трэба сказаць, што ён захаваў цудоўную, сакавітую беларускую мову. Яму, выпускніку Менскага педінстытута 30-х гадоў, я вельмі ўдзячны за сваё першае знаёмства з жывым беларускім словам.

*— Якая тэма Вашай дысертацыі?*

— Яна тычыцца ўзаемных уплываў беларускай, польскай і расійскай моваў і называецца «Граматычная канвергенцыя на беларуска-польскім сумежжы».

*— А ці былі Вы ў іншых рэгіёнах?*

— Я пазалетась працаваў у некалькіх вёсках Навагрудскага раёна, запісваў мову

## ВЕСТКІ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# Экспарцёр інтэркамунізму знаходзіцца пад следствам

Як ужо паведамлялася, у Вільні ў адным са следчых ізалятараў знаходзіцца былы лідэр «Сацыялістычнай федэрацыі працоўных Летувы», былы прафесар кафедры марксізму-ленінізму былой Віленскай вышэйшай кампартшколы, былы кансультант ідэалагічнага аддзел ЦК КПЛ-КПСС Іван Данілавіч Кучараў. Калі ў Вільні ў свой час не ўдаўся путч, Іван Данілавіч хуценька перабраўся ў Менск, дзе няблага ўладкаваўся, стаў палітычным аглядальнікам камуністычнай газеты «Политика. Позиция. Прогноз», а таксама на палову стаўкі вядучым навуковым супрацоўнікам аднаго з навукова-даследчых інстытутаў, адначасова заняўшыся рэанімацыяй кампартыі Беларусі. Аднак яму захацелася зноў пашырыць сваю дзейнасць на Летуву, куды ён і пачаў наведвацца з пэўнымі мэтамі, забыўшыся, відаць, што тут не Беларусь з яе камуністычным прыволлем. І. Д. Кучарава арыштавалі, прад'явіўшы абвінавачванне па артыкулу 70 КК Летувіскай Рэспублікі з прычыны таго, што ён, з'яўляючыся ў свой час кансультантам па паліталагічных і прававых пытаннях у ідэалагічным аддзеле ЦК КПЛ-КПСС, актыўна ўдзельнічаў у гэтай арганізацыі і, як адзначыў галоўны следчы Генеральнай пракуратуры Летувы Боцінгіс, «яго дзейнасць цесна звязана с сумна вядомым так званым Камітэтам нацыянальнага выратавання, ягоным стварэннем, прыкрымі мэтамі звяржэння законнай улады Летувы». Цяпер затрыманы размаўляе са следчымі. Яму гарантаваная прававая абарона (адвакат), а таксама перакладчык з летувіскай мовы, бо Іван Данілвіч у свой час ёю пагарджаў, прапагандуючы перавагі «великого и могучего». У хуткім часе затрыманаму будзе прад'яўлена абвінаваўчае заключэнне і справа перададзена ў суд.

Інфармацыйная служба
ТБМ Віленскага краю.

Па прапанове рэктара Віленскага універсітэта Р. Павіленіса з сяброю сената ВУ, якія дапускаюць памылкі пры ўжыванні літоўскай мовы ў час пасяджэнняў, спаганяецца штраф — адзін талон (1,5 руб.) за адну памылку.

* * *

Газета «Эхо Литвы» паведаміла, што ў маршрутны аўтобус Свянцяны — Зарасай зайшлі пажылыя людзі Павел Фелянок і яго жонка Марына з Беларусі і павіталіся на сваёй мове. Адзін пасажыр замест адказу на прывітанне паказаў пальцам на наклейку на шкле кабіны шафёра, дзе было напісана «Кальбек летувішкай», што перакладаецца так: «Гавары па-літоўску».

* * *

У Вільні на швейна-фурравай фабрыцы, што па вул. Саванору, усіх работнікаў прадпрыемства прымушаюць «добраахвотна» пісаць заявы на адпачынак толькі на літоўскай мове.

* * *

Раней кожную суботу а 12 гадзіне дня па першай праграме Літоўскага тэлебачання перадавалі «20 хвілін па-беларуску» (вядучая Дубавец-Сапач). А кожны панядзелак у рамках тэлебачання Усходняй Літвы па першым канале Польскага тэлебачання ішла перадача «Родны край» (40 хвілін), якую вёў С. Вітушка. Цяпер, каторы ўжо месяц, беларускія праграмы адменены. Ва ўрада Літвы няма грошай на іх фінансаванне.

*Згадкі*

*Мар'ян ВІЖ*

# БЕЛАРУСЬ У ЛЮСТЭРКУ СЛАВЯНАФІЛАЎ

Сення на бяскрайніх абсягах былой Расійскай імперыі і яе пераемніка — колішняга СССР частка тых, хто называе сябе «сапраўднымі патрыётамі Расіі-матухны», чамусьці лічыцца нашчадкамі традыцый славутых рускіх славянафілаў мінулага стагоддзя. Між тым класічнае, так бы мовіць, славянафільства тых не надта далёкіх часоў, знаходзячыся на агульнавядомых рэакцыйных пазіцыях абароны «праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці», усё ж вельмі істотна адрознівалася ад цемрашальства і небяспечных палітычных гульняў кіраўнікоў сучасных так званых «Славянских соборов» і «Славянских союзов». У гэтым, у прыватнасці, можна пераканацца, пагартаўшы старонкі даволі ўплывовай газеты «День», якую ў 1861—1865 гадах рэдагаваў і выдаваў у Маскве Іван Аксакаў. Натуральна, што нас цікавяць найперш беларускія матэрыялы «Дня», кароткі агляд асноўных з іх вам прапануецца. Адзначым, што тэма «Славянафілы і Беларусь» дагэтуль застаецца адной з «белых плям» нашай гісторыі, якая яшчэ прыцягне ўвагу даследчыкаў.

* * *

«Беларусаў мы лічым сваімі братамі»,— напісаў у газеце «День» 24 лютага 1862 года Іван Сяргеевіч Аксакаў — вядомы рускі паэт, папулярны публіцыст і грамадскі дзеяч славянафільскага накірунку. У шчырасці гэтага выказвання сумнявацца не даводзіцца. Мікалай Чарнышэўскі, вакол якога гуртаваліся ўсе апазіцыйныя, антыўрадавыя сілы краіны, пісаў аб братах Іване і Канстанціне Аксаковых: «Яны належаць да ліку найбольш адукаваных, высакародных і таленавітых людзей».

Дададзім, што І. Аксакаў быў карэспандэнтам А. І. Герцэна. У газеце «День» ён неадночы заклікаў дваранства добраахвотна адмовіцца ад саслоўных прывілеяў. Многія артыкулы газеты забараняліся цэнзурай, а напярэдадні скасавання прыгону І. Аксакаў выступаў за вызваленне сялян з зямлёй за выкуп.

Рэакцыйны сэнс зыходных славянафільскіх канцэпцый, безумоўна, накладаў адбітак на падыход Івана Аксакава да беларускага пытання. Але ж нельга абысці той факт, што шматпалосны «День» у пераважнай большасці нумароў змяшчаў разнастайныя матэрыялы аб Беларусі. Асобныя ж выпускі гэтага штотыднёвіка амаль цалкам прысвячаліся нашай Бацькаўшчыне. «День», па-сутнасці, ажыццявіў ці не першую ўдалую спробу парушыць у грамадстве сцяну недасведчанасці аб Беларусі, на што, дарэчы, звярнуў увагу яшчэ Максім Багдановіч (артыкул «Беларускае адраджэнне», часопіс «Украинская жизнь», 1915, №№ 1—2).

Прафесар Санкт-Пецярбургскай духоўнай (праваслаўнай) акадэміі, беларус па паходжанні, М. В. Каяловіч у артыкуле «Літва» першага нумара «Дня» (14.09. 1861) выступіў супраць «Виленского вестника» — газеты, якая ў перыяд узмоцненай падрыхтоўкі паўстання 1863 года зрабілася трыбунай польскіх нацыяналістаў з ліберальна-кансерватыўнай партыі «белых». Апошнія, як вядома, выступалі за так званую «Вялікую Польшчу ў межах 1772 года». Гэта значыць — за прымусовае падначальванне спрадвечных беларускіх зямель. Прафесар-гісторык абураўся, што «Виленский вестник» беспадстаўна «называе сябе і ўсіх літоўцаў палякамі». Пад паняццем «Літва» Каяловіч справядліва разумеў усю тэрыторыю былога Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку, зразумела, і нашу Беларусь, якая была ядром гэтай дзяржавы.

Шэсць старонак — амаль палавіна ўсяго восьмага нумара — прысвячаліся беларускім справам. Васіль Ялагін у нататках «Некалькі слоў аб Польшчы і Літве» (Пісьмо з былой Літвы), падкрэсліваючы галечу, цемру, забітасць і іншыя прыкрыя з'явы штодзённага побыту беларусаў, пісаў: «Паглядзіце ў Беларусі, што такое народ, пакінуты грамадствам».

Куды больш цікавым і змястоўным быў абласны аддзел таго ж нумара. Пільнай увагі заслугоўвае «Ліст з Магілёва-на-Дняпры губернскага», надрукаваны пад крыптанімам «А. К.»

«Маніфест аб вызваленні сялян,— піша магілёўскі карэспандэнт,— атрыманы быў тут першымі днямі сакавіка... Народ сустрэў вестку аб сваім вызваленні абыякава, не ведаючы, якой акажацца гэтая воля... У пачатку красавіка з маёнткаў... сталі прыходзіць у Магілёў сяляне, чалавек па 20, са скаргамі на цяжкія павіннасці... сяляне на паншчыне працавалі горш, чым раней, выходзілі на працу са спазненнем». Далей аўтар паведамляе, што ў губернскі горад працягам красавіка-мая сцякалася мноства сялян са скаргамі на памешчыкаў, але іх ніхто не слухаў. Па распараджэнні ўлад часова-абавязаных збівалі, сілаю прымушалі вяртацца назад. У асобных месцах выбухнулі сялянскія хваляванні. У маёнтак Вейна Магілёўскага павета, дзе 800 чалавек адмовіліся ад паншчыны і аказалі ўпартае супраціўленне паліцэйскаму спраўніку, была прыслана рота карнікаў.

Параўнаем гэтыя звесткі з адпаведнымі архіўнымі дакументамі.

У сакрэтным рапарце ад 6 мая 1861 года жандарскага губернскага штабафіцэра шэфу Трэцяга Аддзялення мы знаходзім фрагменты, якія цалкам адпавядаюць надрукаванаму «Днём» матэрыялу. Як бачым, у дадзеным выпадку «День» змясціў дакладнае і таму ўнікальнае ў легальным друку тых часоў сведчанне аб выступленнях беларускага сялянства ў адказ на рэформу 1861 года.

У лісце з Магілёва звернута таксама ўвага на прыкметнае ажыўленне вызваленчага руху: у касцёлах гарадоў і мястэчак спявалі забароненыя гімны, адбываліся вулічныя маніфестацыі і шэсці. У апошніх, як вядома, у Віцебску прымаў удзел беларускі паэт Арцём Вярыга-Дарэўскі. Але працоўныя масы ставіліся да гэтых грамадскіх з'яў у большасці выпадкаў апатычна. Дадзеная акалічнасць падкрэслена магілёўскім карэспандэнтам «Дня»: «Хто ж спявае (гімны ў касцёлах), спытаецеся вы? Больш усяго спяваюць дзяўчаты і дамы — тутэйшыя дваранкі, затым гімназісты... службоўцы тутэйшых прысутных месцаў, маладыя чыноўнікі і маладыя асобы, што не служаць, таксама з нашых мясцовых дваран. Большасць спяваючых — у самім Магілёве, у паветах іх няшмат».

Сярод матэрыялаў аб Беларусі, надрукаваных газетай «День» працягам 1862 года, асаблівую цікавасць выклікае аб'ява аб заснаванні часопіса «Вестник Юго-Западной и Западной России», які пачаў выходзіць у Кіеве пад рэдакцыяй Ксенафонта Гаворскага. Даваўся разгорнуты пералік зместу тэматычных раздзелаў новага выдання. Але аб тым, што часопіс выдаецца на сродкі Сінода, рэдакцыя «Дня» палічыла за лепшае не паведамляць.

Беларускія матэрыялы, якія ўбачылі свет на старонках «Дня» ў 1863 годзе, складалі звыш палавіны гадавога аб'ёму газеты. Інтарэс да Беларусі быў абумоўлены, у першую чаргу, паўстаннем 1863 года. І хоць славянафілы, як вядома, узяўшы на ўзбраенне ваяўнічы вялікадзяржаўны шавінізм, канчаткова скаціліся на пазіцыі рэакцыі, чытачы «Дня», тым не менш, паранейшаму маглі, добра прыглядзеўшыся, знайсці там праўдзівую інфармацыю аб нашай Бацькаўшчыне. Менавіта на ёй мы і спынімся.

Пры асвятленні беларускіх спраў рэдакцыя газеты ўскладала вялікія надзеі на аўтарытэтную фігуру гісторыка М. Каяловіча, прадстаўніка Беларусі — таго самага краю, аб якім якраз разгарэлася спрэчка паміж Расіяй і Польшчай. І спадзяванні пецярбургскі прафесар апраўдаў. Да паўстання 1863 года ён надрукаваў у газеце мноства даведачных і гісторыка-публіцыстычных артыкулаў пра Беларусь. Так, напрыклад, ён даволі дакладна вызначыў этнаграфічныя межы Беларусі: «Пад імем «Беларусія» я разумею больш шырокую прастору і больш народу, чым звычайна ў нас лічаць. Я разумею тут усё тое племя, якое размаўляе беларускаю гаворкаю і раскінута на прасторы Віцебскай, часткі Магілёўскай губерні, Мінскай губерні, большай часткі Гродзенскай і Віленскай губерняў і часткова ў Ковенскай губерні».

Але з першых жа залпаў паўстанцаў тон артыкулаў Каяловіча рэзка мяняецца: гістарычныя нататкі саступаюць месца шавіністычнай палітычнай прапагандзе. Але Каяловічу нельга адмовіць у каштоўных, трапных назіраннях, зробленых непасрэдна на Беларусі, дзе людзі, паводле ягоных слоў, «захавалі і захоўваюць у шэрагу мясцін старажытнейшыя асновы свайго жыцця... у Мінскай губерні... мне часам здавалася, што я чытаю летапіс Нестара, калі я ўглядаўся ў гэты народ».

Сярод шматлікіх беларускіх матэрыялаў 1863 года, змешчаных на старонках «Дня», асаблівае месца належыць трынаццаці «Беларускім пісьмам», падпісаным псеўданімам «Беларус». У іх даюцца яскравыя малюнкі жыцця і побыту беларускага народа, амаль пазбаўленыя славянафільскай палітычнай рыторыкі. «Пісьмы» належаць пяру Васіля Ялагіна. З розных крыніц мы змаглі сабраць наступныя звесткі пра аўтара: Васіль Аляксеевіч Ялагін (1818—1879) нарадзіўся ў Лепельскім павеце Віцебскай губерні. Па маці даводзіўся братам вядомым славянафілам Івану і Пятру Кірэеўскім, друкаваўся ў «Русской беседе», газеце «День», іншых перыядычных выданнях пад рознымі псеўданімамі, у «Современнике» (1859, №№ 5—6) змясціў цікавую аповесць «Губернскі карнавал».

Вось як апісвае беларускую вёску напярэдадні скасавання прыгону В. Ялагін («День», № 29): «Прыгонны беларус праводзіў на паншчыне... у большасці выпадкаў усе 6 дзён тыдня, і толькі па начах, пры святле месяца ды па нядзелях... маглі гэтыя няшчасныя займацца ўласнай гаспадаркай. Жах бярэ міжвольна, калі ўявіш сабе, да якіх вынікаў павінен быў прывесці і прывёў такі парадак спраў: бедныя земляробы маральна забіты гэтай цяжкаю, марнай для іх работаю, якая высмактала іх сілы і здароўе (і)... прыйшла страшэнная бязлітасная нянавісць і злосць да паноў... (сяляне), напрыклад, у Віцебскай губерні і іншых мясцовасцях амаль не ведаюць смаку чыстага хлеба, замест якога яны ўжываюць сумесь з мякіны і мукі, прычым мякіны ідзе намнога больш за палавіну. Гэтае зелле, што сохне і раскідваецца яшчэ ў печы, заменьвае... людзям хлеб!»

Але аўтар цвёрда верыць: нягледзячы ні на што, у беларусаў ёсць будучыня, бо «народ гэты надзелены ад прыроды і выдатнымі здольнасцямі, і працавітасцю, і дапытлівасцю, ён даказаў гэта сваім мінулым, даказвае і цяпер у часіну абуджэння».

Можна смела сцвярджаць, што ва ўсёй легальнай перыёдыцы XIX стагоддзя параўнаць дадзенае выказванне аўтара пра беларускі народ можна хіба толькі з дабралюбаўскім: «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».

У сёмым пісьме аўтар паведамляе аб гутарках з сялянамі Дзісненскага павета Віленскай губерні ў маёнтку Бяльмонты графа Плятэра. Ён апісвае палітычныя настроі сялян, іх стаўленне да паўстання, падкрэслівае прыкладам, што на беларускай вёсцы паўстанцкі рух прыхільнікаў не знайшоў, што тут па-ранейшаму трывала жыве вера ў царскую справядлівасць. «Мае субяседнікі,— адзначаў Ялагін,— растлумачылі паўстанне... знішчэннем прыгоннага права (гэта агульнае меркаванне паміж сялянамі), іранічна ставіліся да паўстання, іх словы: «Няхай сабе паны бунтуюцца. Гэта зразумела. Вядомая справа, шкада ж выпускаць мужыка з рук». А другі карэспандэнт («День», № 23) словы сялян Усходняй Беларусі наконт паўстання пераказаў яшчэ выразней: «Змяцежыліся нашы паны» (надрукавана па-беларуску).

Пачынаючы з дзевятага «Пісьма», аўтар змяшчае матэрыялы, сабраныя на сваёй роднай Віцебшчыне. Паводле ягоных назіранняў тут сяляне паўсюдна размаўляюць па-беларуску, ...не пачуеш паланізмаў, якія непазбежны ў губернях Віленскай і Гродзенскай». З болем канстатуецца, што «статутныя граматы складзены з поўным захаваннем панскіх выгод і са стратамі для сялян». У адзінаццатым пісьме Ялагін дае маляўнічыя карціны з жыцця простых людзей. «У напружаную пару, летам,— паведамляе ён,— чалавек і скаціна нібы госці дома. Яны заглядаюць сюды толькі каб пераначаваць. Яшчэ да світання селянін будзіць сям'ю і накіроўваецца ў поле на працу. У час жніва ў поле ідуць усе. Хаты старыя, асобныя ўжо пакрывіліся, асунуліся. Сенцы ў многіх дамах абвальваюцца, сялянам няма чым іх рамантаваць, бо памешчык не дае (лесу), хлявы таксама вельмі дрэнныя, няма чым іх паправіць».

Сацыяльны партрэт тагачаснай беларускай вёскі даволі дакладна даецца аўтарам у дванаццатым «Пісьме» («День», № 48). «Памешчыкі лічылі мужыка жывёлаю, абыходзіліся з ім горш, чым з жывёлаю... У мужыка — скура ды косці, колер яго твару падобны да зямлі, так выглядае ён звычайна вясною, калі зусім няма чаго есці... Сяляне душою ненавідзелі сваіх прыгнятальнікаў — гадаў-крывасмокаў, пільна сачылі за імі». Падсумоўваючы ўсё ўбачанае на Беларусі, аўтар робіць наступную выснову: «Сяляне і памешчыкі — два варожыя адзін аднаму лагеры».

У сённяшняга чытача беларускія матэрыялы, змешчаныя «Днём» у 1864—1865 гадах, выклікаюць значна меншую цікавасць, хоць для свайго часу ўсе яны былі прыкметнай грамадскай з'явай. А многія карэспандэнцыі з Беларусі і зараз проста нельга абысці ўвагай. Так, адзін з аўтараў, які падпісаўся «Жыхар Гродзенскай губерні», расказвае чытачам аб маёнтку Кобрын, які Кацярына II падаравала А. Сувораву.

*Працяг будзе.*



## Вучымся!

**Павел СЦЯЦКО, доктар філалагічных навук**

*Культура мовы*

# ПЕРАПІСАЛІ — ЗБЛЫТАЛІ

### ПРА РЭАЛЬНАСЦІ ВЫКАРЫСТАННЯ ПРЫНАЗОЎНІКАЎ З І СА У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Пытанне, пастаўленае ў артыкуле Уладзіміра Содаля «З ці Са?» («Наша слова», № 27, 1993 г.), надта надзённае і патрабуе грунтоўнага вывучэння, каб не парушаць натуральнае аблічча нашай мовы.

Выкажу некаторыя думкі з гэтае нагоды.

Як мяркуюць этымолагі, праславянская мова мела абодва гэтыя прыназоўнікі: *jьz і *sъn, з якіх развіліся потым **из** і **съ**, што далі **з** і **с** (гл. «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы». Т. 3. Мн., 1985, с. 275). Пры фармаванні канкрэтных славянскіх моваў згаданыя прыназоўнікі як бы разышліся па асобных мовах: у беларускай, украінскай, польскай, чэшскай, лужыцкай усталяваўся прыназоўнік **з**, а ў расійскай, балгарскай, славенскай, сербска-харвацкай — **с** і **из**.

Аднафанемавыя словы **з** і **с**, як і шматфанемавыя прыназоўнікі з канцавымі зычнымі, могуць набываць фінальны галосны гук **о** ці **э**. Гэтак узніклі мадыфікацыі гэтых прыназоўнікаў у славянскіх мовах: *ze*, *zo*, se, so, co. Форма з канцавым галосным узнікае тады, калі прыназоўнік стаіць перад словам, якое пачынаецца збегам зычных. Так, у расійскай мове прыназоўнік **с** набывае форму **со** перад словамі, што пачынаюцца збегам зычных, сярод якіх ёсць **р, л, н,** а таксама перад словамі, што пачынаюцца з **з, с, щ:** *со льдом, со слезами, со щавелем, со смехом, со слов, со зла, со всяким, со многими, со мною* (гл. «Словарь русского языка» в 4-х томах, изд. 2, М., 1984, с. 168).

У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 5, Мн., 1983, с. 7) чытаем: «**Са** прыназоўнік з Р, В і Т. Ужываецца замест прыназоўніка **«з»** перад словамі, якія пачынаюцца са збегу зычных, дзе першымі з'яўляюцца **«с», «з», «ж», «ш», «м»,** напр.: *са славай, са зруба, са жменьку, са шчыта, са мною*».

Калі параўнаем гэтыя характарыстыкі прыназоўнікаў **со** і **са** ў згаданых слоўніках, то прыходзім да высновы, што складальнікі беларускага слоўніка перапісалі яе з расійскай крыніцы. Дарэчы, на такую думку наводзіць і параўнанне слоўнікавых артыкулаў, у якіх даецца апісанне прыставак **з-** і **с-**. Вось якое «перавернутае» тлумачэнне прыстаўкі **з-** даецца ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 2, Мн., 1978, с. 272): «**З...**, прыстаўка (гл. **с...**). Ужываецца замест **«с...»** перад звонкімі зычнымі, напрыклад, *збіць, звесці, здужаць, змяніць, змалоць, зрушыць*». І далей: «**З'...** прыстаўка (гл. **с...**). Ужываецца замест **с...** перад галоснымі **«е», «ё», «я»,** напрыклад: *з'есці, з'ехацца, з'ёлкнуць, з'явіцца, з'яднацца*».

Дык што і замест чаго тут ужываецца?

Беларускай мове прыстаўка **с-**, як фанема, неўласцівая, на што паказвае яе становішча ў моцнай фаналагічнай пазіцыі: перад галоснымі і санорнымі зычнымі ў беларускай мове выступае толькі прыстаўка-фанема **з-**: *зэканоміць, зусім* (<з усім), *змарнець, знадворны, зліваць, звіць, зрушыць.* Гэта ў расійскай мове тут маем фанему **с**: совсем, снаружи, сливать, свалить, сразу.

Прыстаўка **с-** — гэта толькі варыянт прыстаўкі **з-** — вынік аглушэння звонкага **з** перад глухім зычным.

Значыць, справядліва будзе кваліфікаваць **с-** як варыянт прыстаўкі **з-**, а не наадварот.

Перанос асаблівасцяў расійскай мовы на беларускую і прывёў да зблытвання граматычнага ладу розных моваў — беларускае і расійскае.

Але вернемся да прыназоўнікаў. Раз няма ў нашай мове прыназоўніка **с**, а толькі **з**, то адкуль тое **са**? Яно з **со** — варыянта прыназоўніка **с** перад збегам зычных: *с дороги, со льда;* беларус кажа тут: *з лёду, з дарогі* (а не: са льду, с дарогі).

Выкарыстанне прыназоўніка **з** зусім натуральнае і перад словамі, якія пачынаюцца збегам зычных з пачатковымі **з, с, ш, ж, м:** у маўленні прыназоўнік **з** зліваецца з наступным словам ў адно вымаўленне (акцэнтавае слова), дзе адбываецца прыпадабненне **з** да наступных гукаў па глухасці ці шыпячасці, у выніку чаго мы чуем адзін доўгі гук: з⁀збруі (з збруі), з⁀збору (з збору), с⁀снапоў (з снапоў), ш⁀шклянкі (з шклянкі), ж⁀жменю (з жменю).

Такое выкарыстанне прыназоўніка **з**, як паказваюць назіранні Ул. Содаля, уласціва і нашым класікам — Максіму Багдановічу, Максіму Гарэцкаму, Янку Купалу, Якубу Коласу, Кузьме Чорнаму і іншым нацыянальным беларускім пісьменнікам. Бачым прыназоўнік **з** у тэкстах славутага Статута ВКЛ і «Беларускай граматыкі» Б. Тарашкевіча.

І гэта не выпадкова. Апроч таго, **са** ўсведамляецца як толькі беларускае напісанне расійскага **со** — варыянта прыназоўніка **с**. А расійскаму прыназоўніку **с** і **со** адпавядае ў беларускай мове прыназоўнік **з**: *с минуты на минуту — з хвіліны на хвіліну, взять книги со шкафа — узяць кнігі з шафы, выбрать со многого — выбраць з многага, говорить со многими — гутарыць з многімі* і г. д.

Дык варыянтам якога слова выступае ў такім разе **са** ў беларускай мове? Прыназоўніка **з**? Тады было б **за**, а не **са**. А калі гэта варыянт прыназоўніка **с**, то такога не ведае сучасная беларуская мова. У жывой народнай мове (мяркую па гаворках Гродзеншчыны, роднай мне Зэльвеншчыны) не выкарыстоўваецца ў натуральным маўленні прыназоўнік **са,** а толькі **з**, які зліваецца з наступным гукам слова, што стаіць пасля прыназоўніка, у адзін доўгі гук [з̄] ці іншыя гукі ў выніку прыпадабнення яго: *з-здору, с-сваім, ж-жменю, ш-швачкай.* І пры спалучэнні з займеннікавай словаформаю *мною* чуваць прыназоўнік з (а не **са**): *ідзі з мною.* Напісанні *са дна, са ўсяго, са двара, са з'яўленнем* лішні раз сведчаць пра перанос у беларускую мову заканамернасцяў расійскай мовы, у гэтым выпадку нават не агавораных школьнымі правіламі выкарыстання прыназоўніка **са** на месцы **з**. Хоць і гэтае правіла, як мы ўжо казалі, расійскае.

Мяркуючы па тым, як «правілі» пры надрукаванні мае тэксты (у розных выдавецтвах і ў розны час), думаю, што і іншых аўтараў напаткаў такі самы лёс, калі замест канструкцыяў з прыназоўнікам **з** яны ўбачылі ў друкаваным тэксце ўсё той жа штучны прыназоўнік **са**. Гэта, дарэчы, добра паказаў і Ул. Содаль: у таго самага аўтара (напрыклад, у М. Лужаніна) пры тых самых фанетычных умовах надрукаваны былі канструкцыі то з прыназоўнікам **з,** то з **са:** *«...вылучаў з свае апранашкі... і прыходзіў са сваёй мамаю, цешачыся з свайго падарунка».*

Я не закранаў тут гістарычных і дыялектных тэкстаў (у іх мы знойдзем і прыназоўнікі **из, с, со, зо**), а кажу пра сучасны стан літаратурнае мовы, маючы на ўвазе найперш праблему ўнармавання граматычнага ладу нашае мовы.

На маю думку, у сучаснай беларускай літаратурнай мове заканамерным выступае прыназоўнік **з,** а **са** стаіць на перыферыі граматычнага ладу мовы і, як мадыфікацыя няіснага, памерлага прыназоўніка **с** (со), не мае перспектывы на выкарыстанне.

*Скарбы народныя*

# А ў нашым Беражне кажуць...

***Нідзе больш не сустракаў гэтых слоў, акрамя маёй роднай вёскі Беражна на Міршчыне, а яны здаюцца мне надзвычай выразнымі, таму прапаную іх чытачам «Нашага слова».***

| | |
|---|---|
| **Абрабіла.—** | Дочанька, палянь,— ты сукенку абрабіла (запэцкала). |
| **Біканы.—** | Уся вуліца ў біканах, і нікому няма клопату падсыпаць чвыру. |
| **Блэндаецца.—** | Не пасядзіць над кнігаю, а блэндаецца і блэндаецца па вуліцы. |
| **Вобмегам.—** | Ведай, калі каму зрабіў дрэнна, табе гэта выйдзе вобмегам. |
| **Вогарадкі.—** | Калі будзеш ехаць на буракі, то здымі драбіны і пастаў вогарадкі. |
| **Воўглае.—** | Воўглае (слабое) у яго здароўе. |
| **Даў групака.—** | Так слізка, што ля самага парога даў групака. |
| **Жмырыць.—** | Нязносная свякроўка: без дай прычыны жмырыць і жмырыць (бурчыць і бурчыць). |
| **Завошавела.—** | Якое з яе сена, калі трава завошавела. |
| **Катунок.—** | Дачушка, падай катунок, цаган у печ закаціць (паставіць). |
| **Курч.—** | Адкуль тыя яйкі, калі курч убіўся ў мае куры. |
| **Лэбскі.—** | Няхай не кажа, што галодны! Я яму ў торбу палажыла лусту хлеба і лэбскі кусок сала. |
| **Логмін.—** | Логмін (гультай) ты, а не гаспадар,— кажа жонка мужыку. |
| **Марськані.—** | Не хоча бегчы, дык ты марськані пугаю, пабяжыць. |
| **Мльон.—** | Папраў мльон, каб сячкарня не ківалася. |
| **Палянь.—** | Палянь, хто там ідзе. |
| **Паджугоўваць.—** | Ён такі злыдзень,— умее паджугоўваць меншых, каб пасварыліся. |
| **Пераход.—** | Слабенькі ён. Кожную весну адхварэе пераход (эпідэмію грыпа). |
| **Пролупка.—** | Зрабі ўсё сёння, бо заўтра будзе новая пролупка. |
| **Прыгняздзіцца.—** | Палянь, як удала хата (куст) ля берага прыгняздзілася. |
| **Рымсціць.—** | Яму сёння нешта рымсціць. |
| **Стаюх.—** | Вырас здаровы, як стаюх, а да працы няма ахвоты. |
| **Шэншало.—** | Шэншала ты стары, а на маладых заглядаешся! — кажа жонка мужу. |
| **Цыкыш.—** | Цыкыш, каб на вас арол, — гнала цётка з градаў куранят. |

**Яўген КРАМКО.**

*в. Беражна Карэліцкага раёна.*

*Жывое слова*

# «Лісапета»

**Не гэтак яшчэ даўно я, ды ці толькі я, лічыў людзей, якія замест «веласіпед» казалі «лісапета», асобамі не вельмі высокай моўнай культуры. Але аднойчы задумаўся: каб гэта адзін-два чалавекі так гаварылі, то так бы яно і было, а то ж такое можна пачуць на ўсім абсягу Беларусі. То ці адной толькі непісьменнасцю ці малапісьменнасцю тлумачыцца гэтая з'ява? Хіба ж яна не дае падставы для больш глыбокага роздуму, больш глыбокай развагі?**

**То і напраўду, падумайце, як гэта адбываецца. Чалавеку кажуць: «веласіпед» (паходзіць з французскай: «velocipede»), а ён прамаўляе «лісапета». Ад пачатковага слова засталіся толькі два гукі «пе», а ўсё астатняе так перайначана, што і маці родная гэтае слова не пазнае.**

**Дык чаму ж так адбываецца? Мабыць, у беларуса такая моўная прырода, такое моўнае чуццё. І пісьменнасць тут, адукацыя ні пры чым. Можна, безумоўна, засвоіць праз напружаныя трэніроўкі любыя словы, любыя мовы. Але гэта ўжо прымус. А мы гаворым пра натуральную прыроду беларуса. Дык вось, яна такая, што слова «веласіпед», і ды ці толькі адно гэта слова, беларус перадае зусім інакш, чым чуе. І з гэтым трэба лічыцца.**

**Я ведаў аднаго кандыдата навук, беларуса. Ён у сваім навуковым побыце карыстаўся расійскай мовай. Але адно слова яму аніяк не паддавалася ні на расійскі лад, ні на беларускі. Гэта слова «радыё». Ён яго вымаўляў толькі як «радзіва».**

**Ды што далёка хадзіць! Як здарылася чарнобыльская бяда, пайшло адразу гуляць праз гэтую бяду слова «радыяцыя». І як жа яго ўспрынялі палешукі? Вядома ж, па-свойму. У тыя дні толькі і чуваць было, што на Палессе якаясь рацыя звалілася.**

**Так што вытокі ўспрыняцця беларусамі ўсялякіх новых для іх слоў трэба шукаць не ў іхняй адукаванасці, а ў іхняй прыродзе, псіхалогіі, у сутнасці іхняга мыслення. А ў чым сутнасць гэтага мыслення, трэба яшчэ разгадаць нашым вучоным.**

**...Гэтымі днямі майму двухгадоваму ўнуку Сержыку купілі трохколавы веласіпедзік. Купілі і сказалі: «Вось табе, Сержык, веласіпед! Катайся!» Малы пастаяў хвілінку, памыляў, памыляў губкамі, ляснуў ручкай па веласіпедзіку і выгукнуў: «Лісапет».**

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—37.*

## Што такое Вялікае Княства Літоўскае?

Вялікае Княства Літоўскае — гэта сярэднявечная беларуская дзяржава, што паўстала ў XIII — XIV стагоддзях на эканамічным і культурным грунце старадаўніх княстваў — Полацкага, Турава-Пінскага ды Смаленскага ў выніку збірання ў XIII стагоддзі Навагародкам вакол сябе суседніх земляў, у тым ліку і тых, што засялялі плямёны літва, латыголь, яцвязь і інш.

Азначэнне гэтай дзяржавы як беларускай мае пад сабою дастатковыя падставы: утварэнне яе дыктавалася інтарэсамі беларускіх феадалаў, беларускія землі складалі аснову эканамічнай і вайсковай магутнасці Княства, панавальнае месца ў ім заняла беларуская мова і культура, а дзяржаўнае заканадаўства развівалася з традыцыйнага беларускага права.

У сваім развіцці Вялікае Княства прайшло тры асноўныя этапы: станаўлення і ўмацавання — XIII — XIV стагоддзі; росквіту і найвышэйшай магутнасці — XV — першая палова XVII стагоддзя; паступовага аслаблення і заняпаду — другая палова XVII — канец XVIII стагоддзя.

Пачатковы этап станаўлення новай Беларускай дзяржавы характарызаваўся моцнымі цэнтралізацыйнымі тэндэнцыямі Новагародка, ягонай зацятай барацьбой з Жамойцяй, Галіцка-Валынскай зямлёю, а гэтаксама з крыжакамі — Лівонскім і Тэўтонскім Ордэнамі. І далей Вялікае Княства няспынна імкнулася да пашырэння сваіх межаў шляхам прамых заваёваў у часы Альгерда (1345—1377) і Вітаўта (1392—1430). Абшары Беларускага гаспадарства павялічваліся і шляхам мірнага пераходу пад ягоную юрысдыкцыю суседніх дзяржаваў, яскравы прыклад чаго — добраахвотнае далучэнне да Княства ў 1559—1560 гадах Інфлянтаў, якія шукалі паратунку ад Маскоўшчыны.

Экспансіяніісцкая палітыка Вялікага·Княства, уваходжанне ў яго склад велізарных абшараў Усходняй Еўропы надавалі нашай дзяржаве характар імперыі. Асабліва гэта датычыць часоў Вітаўта, калі ўлада манарха была неабмежаванаю, межы гаспадарства сягалі Балтыйскага і Чорнага мораў, а пад яго пратэктаратам знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.

Дый пазней Княства абвяшчала свае прэтэнзіі на першынства ў славянскім свеце і не толькі ў ім, напрыклад у перыяд княжання Сцяпана Батуры, калі нават паўстаў план крыжовага паходу «праз Маскву на Турэччыну».

Але сказанае, вядома, менш за ўсё датычыць другой паловы XVII—XVIII стагоддзяў, калі Вялікае Княства перажывала глыбокі заняпад і паступова страчвала свае землі. Урэшце, пры канцы XVIII стагоддзя яно ўвогуле было зліквідаванае.

Палітычны лад Беларускага гаспадарства, які, вядома, зазнаваў эвалюцыю, у перыяд росквіту вызначаўся наяўнасцю найвышэйшага заканадаўчага органа — Галоўнага З'езда (Сойму), дэпутаты якога абіраліся на павятовых сойміках шляхты. Дастаткова моцнай і дасканалай з'яўлялася выканаўчая ўлада Княства на чале з вялікім князем. На чале гарадоў, якія мелі самакіраванне, гэтак званае магдэбургскае права, стаялі войты, прызначаныя манархам. Справаводства ўва ўсіх дзяржаўных установах Княства вялося на беларускай мове, як таго і патрабаваў Статут.

На ўсіх землях гаспадарства, пачынаючы з XV стагоддзя, дзейнічаў адзіны, агульнапрыняты збор законаў, уносіць змены ў які мясцовай адміністрацыі не дазвалялася. Існавала цвёрдая грашова-фінансавая і падаткавая сістэма.

Усе ўласнікі Княства — землеўладальнікі, арандатары, мытнікі ды іншыя, цэнтралізавана ўносілі падаткі ў агульную гаспадарскую скарбонку. Сабраныя грошы скарыстоўваліся на рэчпаспалітыя патрэбы: пераважна на ўтрыманне адміністрацыйнага і судовага апарату ды вайсковыя справы. Дзейнічалі адзіныя прынцыпы судовага і адміністрацыйнага ўпарадкавання; быў прыняты агульны парадак прызначэння кіраўнікоў земляў, ваяводстваў і паветаў, якія мелі роўныя правы і абавязкі; паўсюль існавалі аднолькавыя правілы выбараў на соймікі і Галоўны З'езд; манархам вызначаўся адзіны для ўсіх парадак і нават адны і тыя ж дні правядзення павятовых шляхецкіх соймікаў; нарэшце, існавала адзінае войска і адзіныя вайсковыя законы.

Усялякія сепаратысцкія памкненні далучаных да Княства земляў, ваяводстваў, паветаў ці проста асобных моцных феадалаў лічыліся парушэннем законаў Княства, дзяржаўным злачынствам і таму жорстка пераследаваліся.

Своеасаблівы феадальны «федэралізм» у Вялікім Княстве меў месца толькі на пачатку ўваходжання новых земляў у склад гаспадарства, у пэўны «пераходны перыяд», калі далучаныя абшары «асвойваліся». Але ён, як правіла, з часам разбураўся пад націскам агульнай унітарнай тэндэнцыі, што панавала ў Беларускай дзяржжаве, асабліва з канца XIV стагоддзя, калі Вітаўт на працягу 1392—1396 гадоў дарэшты зліквідаваў сістэму мясцовага (удзельнага) княжання. З другой паловы XV стагоддзя цэнтралізацыйныя працэсы яшчэ больш паскорыліся, бо набылі вагу агульнагаспадарскія законы.

Беларускай дзяржаве быў уласцівы адносна дэмакратычны лад, найвышэйшы ў Еўропе ўзровень развіцця тэорыі права і дасканаласць судовай практыкі, непасрэднымі вынікамі чаго сталіся — адсутнасць жорсткай тыраніі, усталяванне абмежаванай манархіі, урадавая абарона грамадзянскіх правоў і свабодаў, набліжэнне да рэлігійнай і этнічна-культурнай цярпімасці ды інш.

Гэтыя рысы даўняй Беларускай дзяржавы прыкметна адрознівалі яе ад суседняй Маскоўшчыны, дзе панавала жорсткая таталітарная сістэмы, дэспатызм дзяржаўных структураў, поўная грамадзянская неабароненасць асобы, адсутнасць элементарных палітычных свабод.

Такім чынам, Вялікае Княства Літоўскае — гэта спецыфічнае дзяржаўнае ўтварэнне, што існавала ў XIII — XVIII стагоддзях у геаграфічным цэнтры Еўропы, пераемніцай якога — пасля працяглага знаходжання нашых земляў у складзе Расейскай імперыі — была Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 года, у пэўнай меры ўтвораная ў 1919—1920 гадах Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, і, ўрэшце, сёння пераемніцай гістарычных і культурных традыцый Вялікага Княства з'яўляецца суверэнная Рэспубліка Беларусь.

**Іван САВЕРЧАНКА**

## Чаму на Беларусі маскоўскага цара Івана IV называюць Жахлівым?

Маскоўскі цар Іван IV (1530—1584) увайшоў у беларускую гісторыю як захопнік і кат: распачаўшы вайну супраць Вялікага Княства, у 1563 годзе захапіў Полацак, у якім чыніў жудасныя забойствы, дзесяткі тысяч людзей выводзіў у няволю, рассылаў па Беларусі карныя аддзелы для расправы над простым людам. За 16 гадоў панавання ягоных ваяводаў на Полаччыне край гэты настолькі здзічэў і абязлюдзеў, што на аднаўленне яго давялося браць людзей з іншых мясцінаў Беларусі.

Не менш крыві ліў Іван IV і ў сваёй дзяржаве, дзе гады апрычніны сталі сапраўднай вакханаліяй садызму. Прыкладам, у Ноўгарадзе Вялікім узімку 1570 года апрычнікі больш за месяц забівалі па 500—1000 чалавек штодзённа. Ды вось жа дзіва: у памяць свайго народа каранаваны маньяк увайшоў як жорсткі, але справядлівы суддзя, «грозный царь Иван Васильевич». Спрыялі гэтаму асаблівасці расейскага нацыянальнага характару, прынамсі манархісцкія ілюзіі. Адсюль — апалогія тыранства, ідэалізацыя гэтага цара ў расейскай гістарычнай літаратуры.

На Беларусі ж успрыманне Івана IV адпавядала ягоным чорным справам. Тут, як і ў іншых еўрапейскіх краінах, дзе хадзілі жудасныя чуткі пра яго неверагодную лютасць, маскоўскі цар быў не «грозны», а жахлівы. У ангельскую мову ён так і ўвайшоў, як *Iohn Terrible*, у нямецкую — як *Ivan der Schrekliche*. І ў гісторыі гэта *Іван Жахлівы*.

**Генадзь САГАНОВІЧ**

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ СЛАВІСТАЎ — навуковая арганізацыя пры Акадэміі навук Беларусі дзеля развіцця і каардынацыі даследаванняў у галіне славяназнаўства і навуковых сувязяў нашых славістаў з калегамі іншых краін. Заснаваны ў 1957 г. як часовы орган для кіраўніцтва падрыхтоўкай беларускіх вучоных да IV Міжнароднага з'езда славістаў, што адбыўся ў 1958 г. у Маскве. Праз год пераўтвораны ў пастаянна дзейны камітэт, які ўдзельнічае ў арганізацыі канферэнцый, сімпозіумаў, прысвечаных вывучэнню мовы, літаратуры, духоўнай і матэрыяльнай культуры славянскіх народаў.**

***Паводле Г. А. ЦЫХУНА.***

**«Беларуская анамастыка»** — зборнік навуковых і навукова-папулярных артыкулаў па анамастыцы (навуцы аб уласных імёнах) Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. У трох выпусках (1977, 1981, 1985 пад рэдакцыяй М. В. Бірылы і В. П. Лемцюговай) даследуюцца геаграфічныя назвы, імёны, прозвішчы ды іх паходжанне.

*Паводле В. П. Лемцюговай.*

**«Беларуская граматыка для школ» Б. Н. Тарашкевіча** — навуковая праца, якой упершыню былі вызначаны правапісныя і граматычныя нормы сучаснай беларускай мовы. Надрукавана ў 1918 г. (кірыліцай і лацінкаю).

У 1913 г. Янка Купала звярнууся да студэнта 3-га курса Пецярбургскага універсітэта Браніслава Тарашкевіча з прапановай стварыць граматыку беларускай мовы. Б. Тарашкевіч здолеў выявіць галоўныя заканамернасці беларускай літаратурнай мовы. Сфармуляваныя ў граматыцы правілы атрымалі ўсеагульнае прызнанне. На яе аснове ствараліся падручнікі (прыкладам, у 1921 г. — «Практычная граматыка беларускай мовы» Я. Лёсіка), пачаўся працэс стабілізацыі норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

*Паводле Л. М. Шакуна.*

**«Беларуская лінгвістыка»** — навуковы штогоднік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Выходзіць з 1972 г. на беларускай мове два разы на год. Друкуюцца пераважна мовазнаўчыя артыкулы, а таксама агляды навуковай літаратуры і рэцэнзіі на навуковыя працы беларускіх і замежных вучоных.

*Паводле П. А. Міхайлава.*

**«Беларуская мова»** — штогадовы рэспубліканскі зборнік Міністэрства адукацыі Беларусі, заснаваны ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны ў 1973 г. пад назвай «Беларуская мова і мовазнаўства». Асноўная мэта выдання — даць выкладчыкам і студэнтам неабходныя ў вучэбным працэсе звесткі па розных лінгвістычных дысцыплінах. У зборніку друкуюцца тэарэтычныя артыкулы, даследаванні моўнага майстэрства беларускіх пісьменнікаў, разнастайныя слоўнікі.

*Паводле У. В. Анічэнкі.*

**БЕЛАРУСКІЯ ГРАМАТЫ XIV ст.** У залежнасці ад зместу і службовага прызначэння яны былі дагаворныя, прывілейныя, дарчыя, духоўныя, купчыя, ахоўныя, укладныя, падаравальныя, устаўныя ды іншыя, а таксама дазволы. Гэта — афіцыйныя і прыватныя пісьмовыя дакументы. Яны звычайна афармляліся паводле традыцыйных узораў, прыкладам: *«се я княгиня олькгирдовая оульяния оуставила есми на церковь божию пречистои успения темяньщину»* (датуецца 1377 г.); *«Я князь полоцкий Ярославъ Ізяславовичъ сознаваю симъ моимъ листомъ вечне и непорушно...»* (1396).

Граматы ствараліся на ўсіх тэрыторыях, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, самыя старыя — на смаленска-полацкіх землях. Вядомы беларускія граматы, якія былі складзены ў канцылярыі польскіх каралёў у Кракаве. Мова іх неаднародная, бо граматы пісаліся пад уплывам традыцыйнай пісьменнасці. Аднак амаль усе яны адлюстравалі ўздзеянне народнай гаворкі, прыкладам, замена *в* на *у* ў становішчы перад зычнымі: *у витьбескъ, у чомъ, у томъ, улюбилъ, оузяти* (1300), *усю, оусякии* (1387); наяўнасць афрыкаты *дж (ездживалъ)*, якая часам перадавалася спалучэннем *жч (розъежчалъ)*; чаргаванне заднеязычных *г, к, х* з свісцячымі *з, ц, с (в Ризе, на дорозе, въ руце, на раце, о пастусе)*.

Сярод марфалагічных асаблівасцей грамат — ужыванне рэчыўных і абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку з канчаткам *-у(-ю): воску, хмелю, уціску, гневу, початку, роду, збытку, клопату, свару, дому;* прыназоўнік-прыстаўка *зъ* на месцы ранейшых *с(ъ)-, из(ъ)-: зъ своимъ, зъ гневу, зъ его початку, збора, збегаюць.*

У сінтаксісе грамат можна адзначыць такую характэрную асаблівасць беларускай мовы, як выкарыстанне спалучэння назоўніка ў родным склоне з прыназоўнікам *до* (замест прыназоўнікаў *къ, въ* плюс назоўнік у давальным або вінавальным склоне): *Янъ... медъ несъ до своего дому; пожегъци... до костела утекуть; животину иметь гнать до оборы.*

Значнае месца ў лексіцы грамат займаюць агульнаўжывальныя словы: *жыто, кривда, ыстобъка, поветь, пожитки, сеножать, млынъ, податокъ, потреба, ведати, лепшии, оучинити, хто, николи, почати, ховати, чынити.* Асобную частку лексікі складалі афіцыйныя тапанімічныя назвы: *городня* (1342), *пропошескъ* (1387), *вилня* (1389), *берестье* (1400); імёны і прозвішчы людзей: *прокопии, оульяния, василии карачовскии, яшко олешиньскии.*

Арыгіналы або копіі беларускіх грамат XIV ст. захоўваюцца ў бібліятэках Масквы, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Кракава. Яны публікаваліся ў выданнях: «Граматы, якія датычаць зносін Паўночна-Заходняй Расіі з Рыгаю і ганзейскімі гарадамі» (СпБ, 1857), «Руска-лівонскія акты» К. Нап'ерскага (СпБ, 1868), «Старажытныя помнікі рускага пісьма і мовы X—XIV стагоддзяў» І. І. Сразнеўскага (СпБ, 1863), «Віцебская старына» А. Сапунова (т. 1. Віцебск, 1883); «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (т. І. СпБ, 1896); «Палеаграфічныя здымкі з рускіх грамат пераважна XIV стагоддзя» (СпБ, 1903), «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. І. Мн., 1961), «Смаленскія граматы XIII—XIV стагоддзяў» (М., 1963); «Граматы XIV ст.» (Кіеў, 1974); «Полацкія граматы XIII—пачатку XVI ст.» (М., 1977).

***Паводле У. В. АНІЧЭНКІ.***




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Густава Адольфа Бэкер (1836—1870) лічыцца адным з самых тонкіх лірыкаў-рамантыкаў не толькі ў іспанскай, але і ва ўсёй еўрапейскай паэзіі.

*Густава Адольфа БЭКЕР*

* * *

**Чорная, палкая я — нібы страсці**
**Сімвал сапраўдны. Палае ўва мне**
**Прага такіх насалодаў і шчасця...**
**Ці ты мяне тут шукаеш? — О, не!**

**Твар мой ружовы, каса залатая:**
**Хутка забудзешся ты аб журбе;**
**Скарбы пяшчоты *табе* зберагаю...**
**Клічаш мяне ты? — Ды не, не цябе!**

**Я — немажлівая, я — летуценне,**
**З промняў святла, з туманоў мая плоць;**
**Я, неўяўляльная ва ўвасабленні,**
**Не пакахаю цябе...**
**— О, прыходзь!**

* * *

**Толькі я расплюшчыў вочы —**
**Сон забыў, што сніў уночы:**
**Сумны, надта сумны ён, напэўна...**
**Я прачнуўся — сум знікаць не хоча.**
**У мяне пад галавою**
**Узмакрэла ўся падушка,**
**З асалодай горкаю, цяжкою**
**Ап'яніўся я душой сваёю...**
**Сон маркотны, сон журботны —**
**Як абудзішся з-за плачу,**
**Ды не знікла ўцеха незваротна:**
**Слёзы ж засталіся мне, няйначай!**

* * *

**Як слаўна дзень убачыць новы,**
**Слупом агню каранаваны:**
**Ад пацалункаў промняў**
**Яснеюць хвалі ды паветра апантана!**
**Як слаўна восенню суровай**
**Адчуць пасля залевы вільгаць**
**Ды моцны водар кветак —**
**І цэлы вечар тым паветрам дыхаць!**
**Як слаўна,— калі снег узімку**
**Дрэў абсыпае вершаліны,—**
**Агонь дрыготкі бачыць,**
**Уладкаваўшыся каля каміна!**
**Як слаўна спаць без перапынку:**
**Храпці, нібы рэгент царкоўны,**
**Тлусцець паціху...**
**Толькі што за ліха —**
**Замала нам і гэтага ўсё роўна!**

**Пераклад з іспанскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА**
**і Якуба ЛАПАТКІ.**

*Проза*

*Х. Л. БОРХЕС*

# «Кніга прыдуманых істотаў»

## *Ад перакладчыка*

***У № 35 «Нашага слова» былі надрукаваны дзве навелы Х. Л. Борхеса, якія зацікавілі чытачоў, а некаторыя выказалі пажаданне ўбачыць працяг. Раблю гэта з вялікай прыемнасцю, папярэдне сказаўшы колькі слоў пра паралельны свет і яго суадносіны з рэальнасцю, пра што так дасціпна разважаў выдатны аргенцінскі пісьменнік.***

***Рэальнасць пільнуе нас штодня. Мы вырачаны на спатканне з ёю. Але пэўнасць яе не вельмі вялікая. Мы можам нешта планаваць, меркаваць, але хто, апроч нас саміх, дасць хоць зламаны шэлег за нашыя планы? Рэчаіснасць свету, няўстойлівая і хісткая, змушае на несупынную барацьбу за большую пэўнасць. І за гэтай барацьбой бліскучымі вачыма сочыць зусім іншы, калі не сказаць, паралельны свет. Калі хоць на нейкую хвіліну мы спыняем барацьбу, дык адразу адчуваем на сабе ягоны позірк. Нашыя здагадкі пра ягонае існавенне выліваюцца фантазіяй у закончаныя формы «тойсветных» істотаў. Мы спяшаемся засяліць іншы свет як мага шчыльней, бо пустата палохае нас. Часам мы надаём істотам даволі вусціішны выгляд і заўсёды — тое прызначэнне, да якога часта няздольныя самі. Паралельны свет набывае акрэсленую прастору, амаль заўсёды запазычаную ад так званага рэальнага свету, і ў такім выглядзе ён патрапле ў нашае жыццё. Старая міфалогія, хронікі, колішнія кнігі, творы паэтаў-рамантыкаў, народныя легенды ды прымхі даюць багата падставаў, каб меркаваць пра рэальнасць ірэальнага. Адна з «энцыклапедый» аргенцінскага літаратара Х. Л. Борхеса дае нам магчымасць уявіць, што той свет можа быць больш пэўны, чым свет, у якім мы змушаны браць штодзённы ўдзел. Дык адкінем шырму...***

## Месяцавы заяц

Ангельцам мроіцца з месяцавых плямаў чалавечая постаць. Дзве ці тры ўзгадкі пра месяцавага чалавека «man in*the* moon» утрымлівае «Сон у месяцавую ноч». Шэкспір узгадвае яго ў сувязі са звязкам церніяў, альбо зараснікам цярноўніку. У адным з заключных вершаў XX песні «Пекла» гаворыцца пра Каіна і пра церніі. Каментатар Тамаза Казіні прыгадвае тасканскую легенду пра Бога, які прызначыў для Каіна Месяц, як месца зняволення, і загадаў таму цягаць да скону часу вязанку цярноўніка. Іншыя бачаць на Месяцы Святую Сям'ю, так што Лугонэс меў рацыю, калі напісаў у сваім «Сентыментальным календары»:

«І ўсё там ёсць: з немаўляткам Дзева, побач Есіп,
Муж святы (іншыя хваляцца ўдачай
Што кій ягоны бачаць); тут жа белы ослік
Па месяцавай пожні гулліва скача».

Кітайцы ж вядуць гаворку пра месяцавага зайца. У адным са сваіх мінулых жыццяў Буда пакутваў ад голаду. Каб яго накарміць, заяц кінуўся ў агонь. У падзяку Буда скіраваў ягоную душу на Месяц. Там, у цяні акацыяў, заяц таўчэ ў чароўнай ступцы зёлкі, што ўваходзяць у эліксір неўміручасці. У некаторых рэгіёнах народ называе гэтага зайца «лекарам» альбо «цудоўным зайцам», ці «агатавым зайцам».

Пра звычайнага зайца маецца прымха, што ён жыве да тысячы год і пад старасць сівее.

## Тэрмічныя істоты

Візіянеру і тэосафу Рудольфу Штэйнеру адкрылася, што нашая планета, раней чым стаць вядомай нам, як Зямля, прайшла праз Сонечную стадыю, а да яе — праз Сатурнаву стадыю. Зараз чалавек складаецца з цела фізічнага, цела эфірнага, цела астральнага ды з «я»; на пачатку ж Сатурнавай стадыі, альбо эпохі, ён быў толькі фізічным целм. Цела гэта было нябачным, да яго нат не было магчымым дакрануцца, бо тады на Зямлі не было ні цвёрдых целаў, ні вадкасцяў, ні газаў. Былі толькі цеплавыя станы, тэрмічныя формы. На абшарах космасу розныя колеры вырысоўвалі правільныя і няправільныя постаці; кожны чалавек, кожная істота былі арганізмам, які складалі зменлівыя тэмпературы. Згодна сведчанню Штэйнера, чалавецтва ў Сатурнаву эпоху было сляпым, глухім і недатыкальным скапленнем цеплыні і холаду ў розных прапорцыях. «Для даследчыка цяплыня ёсць нішто іншае, як субстанцыя яшчэ больш тонкая ад газу»,— чытаем мы на адной са старонак працы «Нарыс акультных навук». Да Сонечнай стадыі духі агню і архангелы давалі жыццё ў целы тых «людзей», якія тады пачыналі блішчэць і ззяць.

Ці прамроіў гэта Рудольф Штэйнер у сне? Ці прымроіў таму, што некалі гэта адбывалася ў глыбінях часу? Бясспрэчна толькі тое, што гэтыя ўяўленні больш уражваюць, чымсьці дэміургі і змеі, і быкі іншых касмагоніяў.

## Ураборас

Зараз Акіян для нас — гэта мора альбо сістэма мораў, для грэкаў гэта была рака, што кальцом абкружала зямлю. Уся вада зямная выцякал з яго, і не было ў яго ні ўтоку, ні вытоку. Быў ён таксама богам альбо тытанам, верагодна самым старажытным, бо Сон у XIV песні «Іліяды» называе яго продкам і бацькам усіх багоў; у «Тэагоніі» Гесіёд называе яго бацькам усіх рэкаў на свеце, з іх тры тысячы, і на чале іх — Алтэй ды Ніл. Звычайная ягоная персаніфікацыя — стары з вялікаю барадою; з цягам стагоддзяў чалавецтва прыдумала для яго больш удалы сімвал.

Геракліт сказаў, што пачатак і канец акружнасці супадаюць у адным пункце. Грэчаскі амулет III стагоддзя да Н. Х., што захоўваецца ў Брытанскім музеі, уяўляе нам вобраз, што цудоўна ілюструе гэтую бясконцасць: змей, які кусае сябе за хвост, ці паводле выдатнага выразу Марцінэса Эстрады, «які пачынаецца з канца свайго хваста», Ураборас (той, хто паядае свой хвост) — гэта тэхнічная назва пачвары, назва, што ўвайшла затым у алхімічны ўжытак.

Самая ўражлівая выява дадзена ў скандынаўскай касмагоніі. У празаічнай, або ў «Малодшай Эдзе» пішацца, што Локі нарадзіў ваўка ды змяю. Аракул папярэдзіў багоў, што ад гэтых істотаў будзе зямлі пагібель. Ваўка Фрэніра ўвязалі на ланцуг, скуты з шасці фантастычных рэчаў: з гукаў кацячых крокаў, з жаночае барады, з корня скалы, з сухажылляў мядзведзя, з рыбінага подыху, з птушынае сліны. Змея Ермунгандра «кінулі ў мора, што абкружала зямлю, і ў моры ён гэтак вырас, што цяпер абкружае зямлю, кусаючы сябе за хвост».

У Ётунгхейне, краі волатаў, Утгарда-Лакі выклікаў бога Тора, што той не падніме ката; напружыўшыся, бог ледзве змог трохі прыўзняць над зямлёй адну з каціных лапаў. Гэты кот — змяя. Тора падманулі чарамі.

Калі настане Змярканне Багоў, дык змяя праглыне зямлю, а воўк — сонца.

## Ламядвоўнікі

Ёсць на зямлі — і заўсёды былі — трыдцаць шэсць бязгрэшных, якія прызначаны апраўдваць свет перад Богам. Гэта ламядвоўнікі. Яны не ведаюць адзін пра аднаго, і ўсе вельмі бедныя. Варта толькі чалавеку даведацца, што ён ламядвоўнік, дык ён адразу ж памірае, і ягонае месца займае іншы, хаця б на іншым краі зямлі. Не ведаючы таго, яны тайныя слупы, што падтрымоўваюць наш свет. Каб не было з іх боку заступніцтва, дык Бог знішчыў бы род чалавечы. Яны нас ратуюць, але самі пра гэта не ведаюць.

Гэта містычная гебрайская прымха была выкладзена Максам Бродам.

Аддаленыя ейныя карані можна знайсці ў васемнаццатым раздзеле «Кнігі Быцця», дзе Гасподзь абвяшчае, што не знішчыць месца Садом, калі там знойдзецца дзесяць бязгрэшных.

Арабы маюць аналагічны вобраз — кутбу.

## Амтысбена

«Парсалія» пералічвае сапраўдных і прыдуманых змеяў, якіх воіны Катона напаткалі ў афрыканскіх пустэльнях; там ёсць «парка», якая «рухаецца стойма, бы кій», «Якула», якая лётае ў паветры, бы страла, і няўклюдная амтысбена з двума галовамі. Амаль такімі ж словамі яе апісвае Пліній, дадаючы: «...быццам аднае галавы ёй не дастае, каб вывергнуць сваю атруту». «Скарбонка» Брунэта Лаціні — энцыклапедыя, што ён параіў свайму былому вучню ў сёмым коле пекла,— менш сентэнцыйная і больш грунтоўная: «Амтысбена — гэта двухгаловая змяя, адна на звычайным месцы, другая на хвасце: абедзвюма яна можа джаліць, рухаецца спрытна, і вочы ў яе палаюць бы свечкі». У XVII стагоддзі сэр Томас Браўн, перакананы, што не існуе жывёлы, у якой няма верху і нізу, пераду і зада, левага і правага бока, адмаўляў існаванне амтысбены, у якой абодва канцы — пярэднія. З грэчаскай «амтысбена» азначае «тая», што рухаецца ў абодвух накірунках». На Антыльскіх выспах і ў некаторых рэгіёнах Амерыкі гэтую назву даюць рэптыліі, якую ў простамоўі называюць «туды-сюды», «двухгаловая змяя» і«маці мурашоў». Кажуць, што яе кормяць мурашкі. І яшчэ — калі яе разрэзаць на часткі, дык яны злучацца.

Лекавыя ўласцівасці Амтысбены былі ўслаўлены яшчэ Плініем.

**Пераклаў з іспанскай С. ВЕРАЦІЛА.**

## Цікаўным

### ЗЛУЧОК КОШТАМ 18 МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ

*Памылка ў пунктуацыі каштавала амерыканцам гіганцкую суму грошай. Гэта адбылося ў лістападзе 1962 года. З-за пропуску злучка ў праграме для вылічальнай машыны, касмічную ракету, якая стартавала з мыса Кенэдзі да Венеры, давялося неўзабаве знішчыць. А яна каштавала звыш 18 мільёнаў долараў. Вось і мяркуйце пасля гэтага, ці патрэбна фізікам ды матэматыкам ведаць дакладна правапіс.*

### АЛЕ ІНШАЙ МОВЫ НЕ ЖАДАЮЦЬ

Ці не самай складанай у свеце з'яўляецца граматыка мовы плямені паўночна-амерыканскіх індзейцаў чыпавеяў. У ёй налічваецца каля 6 тысяч (!) дзеяслоўных форм. У эскімосаў з гэтым крыху прасцей — 63 дзеяслоўныя формы. Праўда, толькі цяперашняга часу. А вось назоўнікі адзіночнага ліку маюць 252 флексіі (канчаткі).

### АХВОТНЕЙ ВУЧАЦЬ АНГЛІЙСКУЮ

У турэцкай мове ўсяго адзін няправільны дзеяслоў. Затое ў англійскай такіх дзеясловаў налічваецца 194. Не кажучы пра тое, што напісанне слова істотна адрозніваецца ад яго вымаўлення. Тым не менш колькі тых, хто прагне авалодаць менавіта «інгліш»!

Падрыхтаваў
Іван ШПАДАРУК.

## З глыбінь народных

Глядзіш на тканкі Соф'і Іванаўны Плясун і дзівішся разнастайнасцю ўзораў, багатаму спалучэнню фарбаў. Быццам усё шматквецце лугоў і садоў азёрнай Браслаўшчыны перанеслася на вырабы выдатнай майстрыхі з вёскі Слабодка. За кожнай яе тканкаю — шмат вечароў за кроснамі пасля цяжкага працоўнага дня.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.
БЕЛІНФАРМ.

## Пачутае «У Лявона»

# У Адэсе апавядаюць:

Старая яўрэйская пара рыхтуецца класціся спаць.
— Ізя, ты зачыніў брамку?
— Зачыніў, Соня, зачыніў.
— А дзверы ты зачыніў?
— І дзверы зачыніў.
— І на англійскі замок?
— І на англійскі зачыніў, Соня.
— А на бельгійскі?
— І на бельгійскі зачыніў.
— І на зáсаўку?
— І на зáсаўку зачыніў, Соня.
— І на ланцужок?
— І на ланцужок таксама зачыніў.
— Ізя, а на швабру ты зачыніў дзверы?
— Вой, на швабру, здаецца, не...
— Ну вось! Заходзь і бяры, што хочаш!

* * *

Адэса. Апоўначы раздаецца грукат у дзверы. Стары гаспадар кватэры Абрам на дыбачках падыходзіць да дзвярэй.
— Вой, а хто там?
— Адчыняй, размова ёсць!
Не паспеў ён адчыніць дзверы, як у яго жывот упёрся ствол нагана.
— Вой, а хто вы?
— Мы — рабаўнікі.
— Вой, а што вам патрэбна?
— Золата.
— І шмат вам патрэбна?
— Сто кіло!
— А сто пяць можна?
— Давай сто пяць!
— Сара, золатка, уставай! За табою прыйшлі.

* * *

— Скажыце, гэта праўда, што ў Адэсе адказваюць пытаннем на пытанне?
— А навошта вам гэта трэба ведаць?

* * *

ЦРУ засылае шпіёна на Украіну. Явачная кватэра — Адэса, Дзерабасаўская, 10. Званок у дзверы да старога яўрэя. Пароль:
— Тут пасылаюць у космас?
— Тут пасылаюць на тры літары! А калі вам патрэбны Ісак-шпіён, дык ён жыве паверхам вышэй!

* * *

Сустракаюцца два яўрэі. Адзін пытае: — Слухай, Сёма, ты ведаеш, хто па нацыянальнасці Мао Цзэдун?
— Не можа быць!

* * *

Параход адчаліў ад Адэскай гавані. Капітан Рабіновіч размаўляе з качагарам Цыперовічам па радыётэлефоне:
— Ісак! Якімі паленнямі паліш топку?
— Як якімі? Роўнымі!
— Палі крывымі! Паварачваць будзем!

* * *

Па вуліцы ледзь цягнецца стары Рабіновіч, які надоечы адсвяткаваў сваё стагоддзе. Яму крычаць:
— Рабіновіч, як вашае здароўе?
— Не дачакаецеся!

* * *

Яўрэй едзе на таксі па горнай дарозе. Раптам машына зрываецца і ляціць у бездань..
— Чорт вазьмі,— гаворыць ён таксісту.— Адключыце хаця б лічыльнік...

* * *

У Адэскім порце каля прычалу ўсплывае русалка з малым дзіцем на руках і звяртаецца да натоўпу цікаўных:
— Як мне знайсці вадалаза Жору?

* * *

З адэскага антыквару сабраў і пераклаў на беларускую мову
Пятрусь КАПЧЫК.

## Афарызмы

Растка ЗАКІЧ

Хамелеоны ў гэты момант пачырванелі.

Гістарычная роля сацыялістычнай буржуазіі ў тым, каб падтрымліваць незадаволенасць рабочых.

У лесе перабаршчылі з дэмакратыяй: штогод лісце мяняецца!

Веданне законаў не апраўдвае суддзяў!

Птушкі ў клетцы, але ж клетка на волі.

Хваліўся людаед людаеду: «Сёння ў мяне быў надзвычай добры абед — я з'еў найлепшага сябра!»

Народ неабходна ашчасліваць, няхай нават усе пагінуць!

Пераклаў з сербскахарвацкай мовы
Іван ЧАРОТА.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**22 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА**
13.30. Навіны.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.40. Палітычны калейдаскоп.
21.00. Панарама.
22.15. «Зоркі» на экране. «Назад, у СССР». Мастацкі фільм.
23.45. НІКа.

**23 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР**
13.30. Навіны.
16.55. Тэлебачанне — школе. Гісторыя. XI клас. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Актуальнае інтэрв'ю.
20.00. «Слова». Выступленне паэта Сяргея Грахоўскага.
21.00. Панарама.
22.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
23.45. НІКа.

**24 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА**
12.25. Шматгалоссе. Гісторыя, культура, быт народаў Беларусі.
13.30. Навіны.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.40. «Вобраз». Літаратурны тэлечасопіс.
21.00. Панарама.
23.40. НІКа.

**25 ВЕРАСНЯ, СУБОТА**
10.00. Паказвае Віцебск. Мастацка-публіцыстычная праграма.
16.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
16.40. Для школьнікаў. Стракатая музычная скарбонка.
21.00. Панарама.
23.35. НІка.

**26 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ**
10.25. ТА «Рэха». Сацыяльныя правы: міфы і рэальнасць. Прамая лінія.
15.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
20.00. Панарама.


Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 289.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7226 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 20.09.1993 г. у 15 гадзін.